Цана асобнага нумару 20 грошаў.

Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

# НАША ПРАЎДА

Выходзіць два разы у тыдзень.

Адрэс Рэдакцыі і Адм[...] Вільня, Віленская вул. 12—6 (Wilen[...] 12. m. 6)
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ад 9 да 3.

Падп[...] [...]эсяц з дастаўкай да хаты [...] [...]раніцы ўдвая даражэй. [...]дрэса 30 гр.

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукаванага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пэтыту ў 1 шпальту.

№ 31 [...]ьня, Серада 20-га ліпня 1927 г. Год I

## Нясталая „стабілізацыя“.

У той мамэнт, калі ў Вэрсалі дзяржавы-пераможніцы дыктавалі пераможанай Нямеччыне варункі міру і прымушалі падпісавацца пад імі, — тварцы Вэрсальскага Трактату былі пэўне-ж глыбака пераканаваны, што яны на доўгія-доўгія часы замацавалі—ці „ўстабілізавалі“ — штучна выкраеныя імі палітычныя граніцы між дзяржавамі Эўропы. Што з таго, што пры гэтым аказаліся парэзанымі на кускі жывыя народы? Дзяржавы-пераможніцы верылі, што тая сіла, якая дала ў іх рукі перамогу на палёх бітваў: *азброены кулак*,—на векі вечныя будзе служыць для іх спосабам утрыманьня ў пакоры й паслухмянстве ўсіх пакрыўджаных і паняволеных....

Апошнія гады паказалі, што спадзяваньні гэныя — *пустыя*: „стабілізацыя“ палітычнага ладу ў Эўропе, пабудаванага на *гвалце*, на нашых вачох расхісталася так, што кожын мамэнт хітра ўложаным у Вэрсалі плянам пагражае поўны развал.

Такі-ж лёс пагражае ўсё больш і больш паважна і другому віду „стабілізацыі“: ўмацаваньню сацыяльных адносінаў у сучасных гаспадарствах. Пасьля сацыяльнае рэвалюцыі ў Расеі, якая была вынікам ваеннага разгрому,—перапужаны міжнародавы капітал аб‘яднаўся і супольнымі сіламі ўрадаў капіталістычных дзяржаваў пачаў арганізоўваць адпор сацыяльнай рэвалюцыі ў сябе. І гэтая другая—сацыяльная стабілізацыя, гэтае імкненьне забясьпечыць Капіталу панаваньне над Працай, як было да сусьветнае вайны, — абаперта на тэй самай *аружнай сіле*, якой вызначана абарона і ўтрыманьне палітычнае стабілізацыі. — Аднак, і тут бачым запраўдныя неспадзяванкі: сацыяльная стабілізацыя пачынае хістацца!

У Італіі — Муссоліні, у Польшчы — Пілсудскі, у Літве — Вальдэмарас стараюцца ратаваць „сацыяльную раўнавагу“ шляхам дзяржаўных пераваротаў. У Францыі і Нямеччыне выдаюцца спэцыяльныя загады, каб аслабіць „выўратовыя“ настроі ў масах. Англія законадаўчым шляхам разьбівае работніцкія арганізацыі й выдаляе з сваіх межаў „бальшавіцкую заразу“, зрываючы дыпляматычныя зносіны з СССР. І ўсюды пры гэтым чуваць заявы, быццам „выўратовы“ рух—гэта вынік выключна агітацыі бальшавіцкіх агентаў і... радавых чырвонцаў!

Але штодзеннае жыцьцё паказуе, што такое простае і лёгкае тлумачэньне сацыяльнага руху, які ўсё шырэй і шырэй захоплівае працоўныя масы сьвету, ня вытрымлівае ніякае крытыкі. У масавых рухах, як паказуе ўся гісторыя ўсіх народаў, ляжаць у аснове дужа паважныя сацыяльныя прычыны, без якіх штучнае ўзварушэньне масы—немагчыма.

Прычыны сучаснага ўзварушэньня работніцкіх масаў у блізу ўсіх капіталістычных гаспадарствах—гэта *агульны гаспадарчы крызіс* і *паўпэрызацыя* (абядненьне) насяленьня ў выніку сусьветнае вайны—з аднаго боку, а з другога—актывізацыя масаў, якія навучыліся на вайне, якую моц маюць з‘арганізаваныя народныя грамады. Што гэта іменна так, паказалі гэтымі днямі крывавыя падзеі ў Аўстрыі, падробнае апісаньне якіх падаем ніжэй. Тут толькі адзначым агулам абраз гаспадарчага жыцьця гэтага краю.

Аўстрыя, некалі 50-міліённае гаспадарства, у выніку вайны аказалася так падзеленай на часьці, што каля старое сталіцы яе, Вены, з яе двухміліённым насяленьнем астаўся толькі малы шматок зямлі з 4-міліёнамі жыхараў. І цяпер гэны горад, які здаволіваў вырабамі сваіх нялічаных фабрык вялізарны край, ня мае для каго працаваць і каму прадаваць свае вырабы... Гэта і ёсьць галоўная прычына крызісу і Вены і Аўстрыі наагул. З гэтае прычыны ў Вене палажэньне работніцкіх масаў—дужа цяжкое. З гэтае-ж прычыны, урэшце, Аўстрыя імкнецца да злучэньня з Нямеччынай, да чаго ні за што ня хочуць дапусьціць дзяржавы-пераможніцы. — Ня дзіва, што працоўныя Вены настроены дужа рэвалюцыйна, хаця аб „бальшавіцкіх уплывах“ тут гаварыць ня прыходзіцца: пануючай партыяй у Аўстрыі зьяўляецца сацыял-дэмакратыя. І вось даволі было апраўданьня буржуазным судом групы нацыяналістаў, якія стралялі ў сацыял-дэмакратаў, каб настрой работніцкіх масаў разам выявіўся ў запраўдным рэвалюцыйным выбуху.

Прыклад Аўстрыі найлепш паказуе, наскольні няпэўнай і нясталай зьяўляецца ня толькі палітычная, але й сацыяльная стабілізацыя буржуазнага сьвету, абапертая выключна на аружнай сіле. І мы і ў гэтым выпадку мусім прызнаць слушнасьць ведамаму выражэньню Напалеона: штыхамі можна ўвесь сьвет зваяваць, але нельга толькі—усядзець на іх!

# Крывавыя падзеі у Аўстрыі.

### Перадусім—факты.

Беспасрэдная прычына, выклікаўшая — сьпярша пратэст, пасьля вялізарную дэманстрацыю работніцкіх масаў, пасьля вулічны бой з паліцыяй, пасьля захват сталіцы работнікамі, пасьля агульная забастоўка і—Рэвалюцыя--вельмі характэрная — ў ёй адбілася ўся ненармальнасьць ды вялікая напружанасьць наагул адносінаў між пралетарыятам і буржуазіяй на Захадзе. У малой Аўстрыйскай дзяржаве, якая мае вялізарную галаву-сталіцу, з насяленьнем больш трэціны ўсяго насяленьня Аўстрыі, работнікі, праўда ня маюць свайго ўраду, але затое маюць паўнату ўлады ў сталічным мястовым самаўрадзе. Гаспадаром сталіцы зьяўляецца—рабачай, які працуе ў поўным паразуменьні з працоўнай інтэлігенцыяй, уваходзячай у склад сацыялістычных партыяў. Праўда, дзяржаўная ўлада ў краі, ня гледзячы на значнае паражэньне буржуазіі на апошніх выбарах, знаходзіцца яшчэ ўсьцяж у руках „хрысьціянскай дэмакратыі“, але фактычна ў Аўстрыі, а перадусім у Вене, яе сталіцы, істнуюць як быццам 2 урады: буржуазны і работніцкі. Наагул у краі выбары паказалі вельмі нязначную большасьць буржуазных галасоў.

Ясна з гэтага, як небясьпечна у гэткіх варунках дражніць работнікаў звычайнай тактыкай буржуазіі, захапіўшай важнейшыя дзяржаўныя ўстановы ў краі.

Ясна і тое, што пры такіх варунках навет дробная праява гэткай тактыкі зьдзеку павінна была выклікаць выбух гневу работніцкіх масаў, а тасаваньне аружнай сілы — давясьці гэты выбух да—рэвалюцыі.

Такім дробным выпадкам было апраўданьне судом „прысяжных“ 3 сяброў нацыяналістычнай баёўкі гакенкрэйцлераў, якія вінаваціліся ў аружным нападзе на в. Шатэндорф у Бургенляндзе і забойстве жонкі работніка з дзіцём ды паранені некалькіх работнікаў. Гэтае апраўданьне выклікала страшэнны выбух пратэсту з боку пралетарыяту, які і давёў да—рэвалюцыі.

### Ход падзеяў.

Пачалося з дэманстрацыі, на якую ўрэшце сабралася больш 100 тысячаў работнікаў сталіцы ды з падместавых пасадаў. Выступленьне паліцыі толькі раздражніла дэманстрантаў, якія кінуліся біць паліцыю, граміць буржуазныя газэты дый будаваць барыкады, каб захапіць уладу ў сталіцы. На помач паліцыі ўрад кінуў войскі. Тады работнікі, разграміўшы арсэналы з аружжам, распачалі запраўдную вайну. У некалькі гадзін у сталіцы была створана запраўдная работніцкая армія, з якой нязначная аўстрыйская армія ўжо ня здолела справіцца. Рэвалюцыя здабыла сілай сталіцу, захапіўшы цэлы рад будынкаў міністэрстваў, парляманту, магістрату і г. д. У сталіцы пачаліся пажары. Тэлеграфная, тэлефонная, і чыгункавая камунікацыя краю з сталіцай ды з заграніцай нерарвана. У той-жа дзень—15-га ліпня—пасьля поўдня абвешчана работнікамі—агульная забастоўка ў краі.

Забітыя ў першы дзень лічыліся дзесяткамі, раненыя—сотнямі. Найбольшы гнеў работнікаў выклікаў буржуазны Суд, дык найбольш пацярпеў ад рэвалюцыйнай кары будынак міністэрства так-званай „справядлівасьці“ ў сталіцы. Натоўп уварваўся туды, спаліў усе судовыя ды іншыя дакумэнты, а пасьля падпаліў і ўвесь будынак. Натоўп знайшоў у „палацы справядлівасьці“ 2 партрэты былога імпэратара. Яны ўраз-жа з вялікім крыкам былі выкінуты на вуліцу, дзе адзін — спалены, а другі павешаны „на ліхтар“, як рабілі з жывымі „слугамі караля“ ў часе вялікай францускай рэвалюцыі. Работнікі лавілі паліцыянтаў, зьдзіралі з іх форму, якую таксама — палілі ці вешалі на ліхтары. Перад гмахам італьянскага пасольства работнікі зрабілі „кашачы канцэрт“, крычучы—„далоў фашызм, далоў Мусоліні“. Паліцыя, якую ўзброілі, апрача шабляў ды рэвальвэраў,—кулямётамі, ды войска аднак-жа адратавалі пасольства, як і некаторыя дзяржаўныя ўстановы. Будынак рэдакцыі ўрадавага органа прэсы „Рэйхспост“, ня гледзячы на адчайную абарону паліцыяй ды войскам, быў узят таўпой штурмам і — разгромлены да зямлі. Тое-ж зроблена было і з іншымі нацыяналістычнымі рэдакцыямі.

### Адношаньне сацыял-дэмакратаў.

Цікаўна, што ўжо к канцу першага дня рэвалюцыі сацыял-дэмакраты, якія хутка страцілі кіраўніцтва здарэньнямі, перастрашыліся размахам рэвалюцыі дый пачалі за ўсялякую цану—біць адбой. Нямецкі „Форвэртц“, орган сацыял-дэмакратычнай партыі ў Бэрліне ўжо на другі дзень рэвалюцыі заяўляе, быццам аўстрыяцкай сацыял-дэмакраты нічога ня ведама аб выбуху, які зьявіўся для яе—неспадзяванкай.

Дык дзіва, што аўстрыяцкая сацыял-дэмакратыя ўжо ў першы дзень начала рабіць спробы паразуменьня з урадам хрысьціянскае дэмакратыі — каб „вызваліць сталіцу з рук натоўпу, уплыў над якой захапілі — камуністы“. Цяпер дык ужо навет ня ведама, хто абвясьціў агульную забастоўку: сацыялдэмакраты ці камуністы.

### Ці спынена ці ўсьцяж ідзе рэвалюцыя.

Весткі з Бэрліну і з Будапэшту (Вэнгрыя)—пярэчаць адны адным. Бэрлінскія крыніцы кажуць, быццам урад у Вене ўжо здолеў апанаваць палажэньне, што прэм‘ер Зэйпэль, які ні на хвіліну ня страціў галавы, ужо вядзе перагаворы з галавой сталічнага самаўраду сацыял-дэмакратам Зэйтцам—аб паразуменьні ды спыненьні далейшай барацьбы ды праліцьця крыві...—Ясна, што сацыялдэмакраты паразумеліся з буржуазіяй, каб ня даць магчымасьці работнікам выкарыстаць перамогу...

Але іншыя весткі, пераважна з Будапэшту, кажуць, быццам сам прэм‘ер Зэйпэль—арыштаваны работнікамі, што прэзыдэнт сталічнай паліцыі—у руках рэвалюцыянэраў, што ў сталіцы—аж 300 тысячаў дэманстрантаў, што некалькі атрадаў падайшоўшых у сталіцу новых войскаў з правінцыі—разьбіта, што забіта—больш 2-х сотняў, а раненых— больш 500, што паліцыя бяжыць з Вены—у Прэсбург...

### Спробы чужаземнага ўмяшаньня.

Апошнія весткі кажуць, быццам ураду Зэйпэля чужаземныя пасольствы запрапанавалі дапамогу з боку сваіх урадаў... Перадусім пасольствы хочуць сваімі войскамі ахоўваць сваі будынкі.

Англійскія газэты першыя кінулі чутку, быццам у Вене абвешчана камуністычная дыктатура... Італьянскі ўрад рады выпадку, каб умяшацца, і заявіў, што, калі чыгункавая камунікацыя ня будзе зараз-жа ўрэгулявана, тады ён пашле сваі цягнікі — з ваеннымі атрадамі ў Аўстрыю...

### Нямецкая прэса заклікае да—далучэньня Аўстрыі.

Калі нямецкая сацыялістычная прэса выракаецца ўсялякай сувязі сацыял-дэмакратыі з венскай рэвалюцыяй, называе яе „камуністычным путчам“, буржуазная прэса, сцьвярджаючы нязьдольнасьць Аўстрыі да самастойнага існаваньня, заклікае ўрад — зараз жа выцягнуць усе вынікі з выпадкаў, каб далучыць Аўстрыю да Нямеччыны...

### Весткі аб адмове войска страляць у работнікаў.

Нямецкае агенцтва даносіць, што войска адмовіліся ўжыць аружжа проці работнікаў. Быццам—побач з адозвай ураду, пагражаючай дэманстрантам тасаваньнем аружжа з боку войска, прэзыдэнт венскага магістрату Зэйтц выпусьціў ад імя „самаўрадавага ўраду“ сталіцы таксама адозву да войска, забараняючую яму тасаваць аружжа проці работнікаў.. І войска паслухала—„ураду сацыял-дэмакратаў“...

### Пэрспэктывы.

Наагул разабрацца ў супярэчных вестках, ідучых з розных бакоў і крыніцаў, вельмі цяжка. Трэба пачакаць больш дакладных інфармацыяў. Ясна толькі адно: перад намі — адзін з выбухаў, які ёсьць праявай вельмі напружаных сацыяльных адносінаў на Заходзе. Гэты выбух можа лёгка пацягнуць за сабой далейшыя вялізарныя вынікі— дый ня толькі сацыяльнага, але і палітычнага характару...

Навакол Аўстрыі Вялікая Антанта паставіла „жандармамі“ дзяржавы Малай Антанты. Побач з імі, сьцерагучы Аўстрыю ад Нямеччыны, стала сама Італія... Нямеччына зусім ня крые сваіх нацыянальных правоў на Аўстрыю, якая і сама імкнецца ўліцца ў вялікае і роднае нямецкае мора... Усё гэта, паміма сацыяльнага зьместу рэвалюцыі ды „дэманстрацыі“ венскага пралетарыяту, робяць з здарэньняў у Аўстрыйскай сталіцы вялізарнай вагі адзнаку часу ў Заходняй Эўропе.

### Водгукі венскай рэвалюцыі ў СССР.

Газэты паведамляюць, што венскія здарэньні выклікалі вялізарны энтузіязм (захапленьне ды ўздым) у Радах. Быццам радавы ўрад пастанавіў паддзяржаць ня толькі маральна, але і матэрыяльна аўстрыяцкіх таварышоў—як мага.

# Канфлікт паміж Урадам і Соймам прадаўжаецца..

### Чаму быў распушчаны Сойм...

Спыніўшы раптам працу Сойму, які — як-ні-як шырока разьвярнуў яе ў розных галінах дзяржаўнага жыцьця — урад навет пачуў патрэбным неяк вытлумачыць паслам ды грамадзянству, якімі матывамі ён кіраваўся ў гэтым сваім запраўды-ж... ня зусім зразумелым паступаваньні. Справа ў тым, што сам-жа ўрад, па свайму пачыну, склікаў гэтую сэсію Сойму, сам урад добра ведаў аб уложаным Соймам пляне сваіх працаў. А калі гэтыя працы ўжо вось-вось падходзілі к канцу, тады ўрад якраз узяў дый — распусьціў наслоў—на спачынак—перад самымі галасаваньнямі, якія далі-б жыцьцё цэламу раду ўжо распрацаваных законаў...

Вось ужо некалькі дзён прайшло ад роспуску Сойму, а ўрад — маўчыць... Дык дзіва, што прэса сама высьвятляе сабе прычыны гэтага дзіўнага акту з боку ўраду.

Перадусім так-званая „бутэрбродная“, ці ўрадавая прэса, як „Голас Праўды“, „Эпоха“, „Чырвоны Кур‘ер“, тлумачаць рашучы крок ураду тым, што Сойм асьмеліўся—без паразуменьня з урадам ды дазволу з яго боку— зрабіць „замах на Канстытуцыю“, дамагаючыся даць парляманту ў Польшчы права самаразьвязаньня, якога Сойм ня мае дый ня можа мець дзеля таго, што гэта права — выключны прывілей Прэзыдэнта Рэспублікі...

Калі запраўды — праз гэтых сваіх „рэптыліяў“—прамаўляе сам урад, тады яму трэба напомніць, што гэтае права самаразьвязаньня, якое істнуе ў цэлым радзе заходніх дэмакратыяў, было праз увесь час мураваным і ў польскай Канстытуцыі А толькі год таму назад паны паслы Сойму, залішне ўс-

